Пераклад Васіля Раманава 2012 г.

**Мітрафан Дзмітрыевіч Доўнар-Запольскі**

# Гісторыя Беларусі

## Змест

# УВЯДЗЕННЕ

*Сярод помнікаў айчыннай гістарычнай думкі пачатку XX ст. адной з найбольш загадкавай доўгі час заставалася “Гісторыя Беларусі” М. Д. Доўнар-Запольскага (1867 - 1934).Схаваная яшчэ ў сярэдзіне 1920-ых гадоў у сховішчах Партыйнага Архіва пры ЦК Кампартыі Беларусі ў Менску, яна была даступнай толькі нешматлікім, атрымаўшым спецыяльны допуск даведчыкам.*

*Рукапіс “Гісторыі Беларусі”быў гатовы не раней 1920 года – аб гэтым сведчыць рэкламная абвестка на абложцы “Курса беларусазнаўства”(М. 1920). Але ў той час кніга не была выдадзена. Пагэтаму трэба падзякаваць супрацоўнікаў выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя” і нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (НА РБ), якія ажыццявілі выданне захаванага тэкста (да нас дайшлі 21 з 23 загалоўкаў*

*аўтара). Твор Доўнар-Запольскага выйшаў пад рэдакцыяй Е. К. Бараноўскага, В. В. Скалабана і И. П. Хаўратовіча.*

Цяжка вызначыць, калі з’явілася назва Беларусі і беларускага народу. Ва ўсякім разе, гэтым імем наш народ звецца з вельмі даўняга часу; бязпрэчна і тое, што назва Беларусь з’явілася значна раней чым назвы Вялікая і Малая Русь. Гэта найменне з’явілася прыблізна тады, калі ў канчатковай форме пачынае складацца сама беларуская народнасць, пад час калі асобныя плямёны дрэгавічэй, радзімічэй і крывічэй полацкіх і смаленскіх канчаткова адрываюцца ад астатняй Русі і ўтвараюць самастойную дзяржаву разам з літоўскім племем – дзяржаву Літвы і Русі. Гэты перыяд прыходзіцца на першапачатковы час стварэння гэтай дзяржавы значыць на XIII і пачатак XIV ст.

І на самай справе, польскія і нямецкія пісьменнікі ўжо з паловы XIV ст. называюць гэтым імем нашу краіну. Вялікія князі Літоўскія называюць гэтыя землі Белай Руссю, а народ гэтай краіны – беларусамі. Гэта значыць, што ў гэты час найменне ужо стварылася і ўкаранілася. З паловы XV ст. ўжо і ў Маскве называюць наваколле Смаленска і Полацка Беларуссю, а мясцовых жыхароў беларусамі. Нават італьянцы у палове XV ст. таксама ведаюць гэту назву. Відавочна, што пазьней у адпаведнасьці з тэрмінам Белая Русь узніклі назвы Русь Вялікая і Русь Малая. Цэнтральная і ўсходняя частка Беларусі відавочна захавала за сабой гэту назву, тады як паўднёва-усходняя яе частка у XV ст. атрымала назву Чорнай Русі. Гэта Навагрудак з прылягаючай да яго паўднёва-заходняй часткай Беларусі, Гродна і іншыя гарады.

Вучоных вельмі бянтэжыць пытанне: чаму эпітэт “белы” быў прыдадзены менавіта гэтай частцы рускага народу? Да гэтага часу выказана два тлумачэнні: адно з іх гаварыць аб тым, што гэта найменне паходзіць ад белага колеру адзення. Але гэта тлумачэнне не мае пад сабой ніякай асновы перш за ўсё таму, што мы зусім не ведаем аб тым які колер адзення дамінаваў у XIV ст., наадварот хутчэй за ўсё трэба лічыць пераважным чорны колер, які адпавядае колеру адзення курганных раскопак. Акрамя таго, у такім выпадку было б зусім не зразумела дастаткова старажытнае найменне Чорнай Русі, бо два розныя эпітэты былі б прыладжаны да аднаго і таго ж народу. Значна грунтоўней другое тлумачэнне, што эпітэт “белы” азначае “вольны” “свабодны”. Сапраўды ў старажытна рускай мове слова “белы” мела такое значэнне, тады як слова “чорны” мела значэнне якое ўказвала на прымусовае аблажэнне падаткам. І гэта на самай справе адпавядае рэальнасьці. Краіна, якая ў старажытны час называлась Берарусь, не была падпарадкавана татарам і карысталась поўнай самастойнасцю у XIII ст. і наступныя вякі ў складзе Літоўска-

Рускай дзяржавы. Гэта была сапраўды вольная частка Русі не абкладзеная падаткамі па знешняму прымусу і маючая самастойную форму кіравання. На усход ад яе на вялізарнай прасторы таксама была Русь, атрымаўшая пазней назву Вялікая Русь, але з паловы XIII ст. амаль да канца XV ст. падпарадкаваная татарам і абложаная імі падаткамі. Каля Кіева і на Валыні таксама былі яшчэ астаткі рэдкага рускага насельніцтва, разбітага і разагнанага татарамі, спачатку кіруемага татарамі і ў наступным названым Малой Руссю. Паўднёва-Заходняя частка Беларусі тады была сапраўды Чорнай Руссю, таму што яна ўвайшла ў склад самой Літвы, належала ёй і была абкладзена падаткамі на карысць Вялікага Князя Літоўскага. Пагэтаму Вітаўт правільна разлічаў у складзе сваёй новаузніклай дзяржавы Русь належачую яму і абложаную ім падаткамі, - паднявольную, Чорную Русь і Русь, карыстаўшуюся палітычнай свабодай і па дагавору уз’яднаўшуюся з князямі Літоўскімі, - Русьвольную, Белую Русь.

Гэты тэрмін дажыў да нашых дзён, і распаўсюдзіўся на астатнюю частку беларускай народнасьці, знаходзячуюся на паўднёвы-захад ад Навагрудка, г. зн. на Русь Чорную. І на самой справе, найменне гэтай апошняй часткі страціла ўсякае значэнне за наступны час і толькі дзякуючы традыцыі дажыло да нашых дзён. Гэты народ таксама прыняў назву беларусы, хоць у наступны час, калі ён пачаў шчыльна зліваццa ў дзяржаўным сэнсе з Літвой, то поруч з тэрмінам беларус з’явіўся і другі тэрмін – ліцвін. І зараз часцяком на пытанне аб народнасьці наш беларус называе сябе “ліцвін”. І ў папяднія часы, асабліва польскія пісьменнікі, Літвой і ліцвінамі называлі Беларусь і беларусаў, не гледзячы на тое, што добра ведалі аб існаванні непасрэдна Літвы, але апошнюю называлі Жмуддзю, па назве пануючага там племені. Гэта тэндэнцыя заўважаецца ў пісьменнікаў з канца XVI ст. і атрымала права грамадзянства ў XVIII і першай палове XIX ст. Нашы пісьменнікі 40-ых гадоў XIX ст. заўважылі гэту неадпаведнаць этнаграфічнага тэрміну і адны з іх карысталіся тэрмінам Беларусь, другія выкарыстоўвалі старытны тэрмінам – крывічы. Але, у любым выпадку, найменне Беларусь і беларусы ніколі не забывывалася з канца XIII ст. і заўсёды мела ральнае значэнне. Гэты тэрмін не штучна прыдуманы, але стварыўшыйся гістарычна і нацыянальны.

# ГЛАВА I. Старажытныя насельнікі Беларусі

### § 1. Эпоха дагістарычная

Доўгі час вучоныя шукалі тыя месцы, якія былі прарадзімай ўсіх інда-еўрапейскіх народаў і, ў прыватнасьці, славянскага племені. Спачатку навука выводзіла ўсе народы з Азіі, і славянскую прарадзіму знаходзіла ў Еўропе, на тым месцы, на якім славяне пасяліліся на некаторы час ўпершыню – на Дунаі. Але цяпер, і пры тым на досыць трывалай навуковай аснове, гэта думка аб пошуках прарадзімы інда-еўрапейцаў у

Азіі не падцвяржаеца. Параўнальнае мовазнаўства зрабіла вялікія поспехі. У цяперашні час прарадзіму усіх інда-еўрапейскіх народаў указваюць у Еўропі, прычым одны вучоныя шукаюць яе ў межах паўднёвай Расіі, а другія ў сярэдняй Еўропе. У гэтым пытанні для нас важна тое, што прарадзіма славян, ва ўсіх выпадках, указваецца ў межах старажытных славянскіх пасяленняў. Гэта тэрыторыя акрэсліваецца на захадзе басейнам Віслы, на ўсходзе Беразіной, на поўдні рысай ад сярэдняга Дняпра, каля Кіева, да поўночных схілаў Карпат. Уся гэта прастора характэрызуецца перавагай славянскай геаграфічнай наменклатуры, што ў сваю чаргу азначае, што тут раней не жыў ніякі народ. На поўнач ад славянскай тэрыторыі жылі літоўцы, ці літа-балты. Быў перыяд калі славяне і літоўцы складалі адзін народ і гаварылі на адной мове, чым і тлумачыцца блізкасць літоўскай мовы да праславянскай. Але з цягам часу абодва народы раздзяліліся і кожны выпрацаваў сваю асобную мову. Літоўцы занімалі ў глыбокай старажытнасці больш шырокую тэрыторыю чым у цяперашні час. Яны насялялі прастору паміж славянамі і ўзбярэжжам Балтыйскага мора, займалі амаль усё цячэнне Нёману, частку басейна Заходняй Дзвіны і, далей на усход ад Дняпра, іхныя паселішчы клінам уразаліся паміж славянскімі і фінскімі паселішчамі, даходзячы на усходзе да межаў сучаснай Калужскай губергіі. Сведкамі літоўскіх паселішчаў на усход ад славян выступаюць шматлікія археалагічныя помнікі – доўгія курганы і курганныя старажытнасьці атаясамляючыя гэты мясьціны з тыповымі старытнасцямі Люцінскага раёну. Доўгае суседства з фінамі адбілася на літоўскай мове і нават на рэлігійных вераваннях як фінаў так і літоўцаў. У агулым выглядзе фіны падвергліся літоўскаму ўздзеянню, запазычылі ад іх шмат слоў і нават некаторыя ідэі ў галіне культуры (літоўскі Перкун і фінскі Перкіно). У сваю чаргу і літоўцы запазычылі некаторыя часткі фінскай дэманалогіі, напрыклад містычныя адносіны фінаў да акружаючай прыроды.

Цяжка сказаць, калі і з якой нагоды тая частка літоўцаў, якая аддзяляла славян ад фінаў зышла з усходняй часткі Прыдняпроўя і далучылася да сваіх супляменнікаў на Балтыйскім узбярэжжы. Цікава толькі, што невялікае літоўскае племя голядзь засталося на папярэднім месцы і знікла толькі у XI ст. акружанае з усіх бакоў рускімі славянамі і пераведзенае рускімі князямі ў рабства. Гэта племя вядома яшчэ па Тацыту пад імем галіндаў на тым самым месцы на якім іх ведае летапіс XI ст. Ва ўсікім разе, як толькі літоўцы пакінулі указаныя месцы, яны былі тут жа занятыя славянамі, у выніку чаго абодва бакі прыйшлі да шчыльнага кантакту. Рух, пачаўшыйся ў асяродзі славян, быў адлюстраваннем таго руху які пачалі германскія плямёны і які вядомы пад імем “Вялікае перасяленне народаў” Германскія плямёны готаў і вандалаў прайшлі праз славянскія пасяленні з поўначы на паўднёвы-усход. Рух готаў і вандалаў да берагоў Чорнага мора прывеў да зрушэння славянскія плямёны, адны з якіх

пайшлі на ўсход, другія, услед за готамі, на поўдзень. Мабыць прастора ў басейні Заходняга Буга на нейкі час засталася не заселенай, чым і скарысталіся літоўскія плямёны і клінам урэзаліся ў славянскія пасяленні. Так славянскае племя ляхаў апынулася аддаленым ад сваіх усходніх родзічаў літоўскім племем яцвягаў, пасяліўшымся ў межаш сучаснай Гродзенскай губерніі.

Такім чынам, ланцуг літоўскіх пасяленняў апынуўся цяпер не з усходняга боку усходніх славян, а з заходняга.

З папярэдняга нарыса відаць, што славянскае племя, якое сядзела на Бярэзіне, прылеглай частцы Дняпра і Прыпяці, было вельмі слаба захоплена тым штуршком, які быў дадзены германцамі да перасялення. Гэта племя наогул засталося на сваім месцы, толькі атрымаўшы невялікую магчымасць да руху на паўночны-усход у напрамку фінскіх тэрыторый. Зыходзячы з данных філалогіі, можна выявіць першапачатковыя межы гэтага славянскага племені. Так дзве вялікія беларускія ракі Дзвіна і Нёман носяць назвы, якія тлумачацца зыходзячы з літоўскай мовы. Але левыя прытокі Дзвіны амаль усе носяць славянскія назвы, правыя прытокі – літоўскія назвы за нешматлікімі выключэннямі. Значыць на ніжняй Дзвіне і наогул на яе правым беразе славяне не былі аўтахтонамі. Нёман, у асноўным літоўская рэчка са сваімі прытокамі, найменні якіх амаль заўсёды тлумачацца з літоўскай мовы за нешматлікімі выключэннямі; насупраць, Прыпяць з яе прытокамі з’яўляецца славянскай рэчкай. Верхняе падняпроўе з правымі прытокамі, асабліва басейн Бярэзіны, маюць славянскія назвы, але ўжо назвы левых прытокаў верхняга Дняпра тлумачацца пераважна зыходзячы з фінскай і літоўскай моў. Толькі Сож і Дзясна з іх прытокамі, уяўляюць сабой мясцовасць дзе славянскія найменні пераплятаюцца з літоўскімі, што значыць, што тут у непасрэднай блізкасці адзны ад другіх жылі разам славяне і літоўцы.

Так вызначаецца старажытнейшая тэрыторыя беларускага племені на поўначы і усходзе. На поўдні такой мяжой была Прыпяць а на захадзе водападзел Паміж Прыпяццю і Заходнім Бугам у напрамку да літоўскай Віліі.

Глыбокая старажытнасць не захавала нам непасрэднага ўказання таго племені, якое тут жыло. Дарэчы Герадот называе імены асобных плямён. Цікава тое, што менавіта герадотаўскія будзіны апісваюцца як племя з светла-блакітнымі вачамі і русымі валасамі, што адпавядае агульнаму тыпу славянскіх плямён. Жыўшы тут народ у час Герадота працягваў жыць і ў першыя вякі нашай эры, таму што геаграфія Пталемея размяшчае тут жа сваіх будзінаў. Канешне атаясамляць будзінаў з беларусамі можна толькі верагоднасна, так як старажытныя пісьменнікі наогул былі вельмі мала азнаёмлены з геаграфіяй дальняга паўночнага-усходу. Незалежна ад назвы, вельмі вялікі інтарэс вызывае пытанне: калі славянскія плямёны сталі набываць свае асаблівасьці, этнаграфічныя і

лінгвістычныя, г.зн. тая эпоха, калі стала назірацца перасяленне славян. Бяспрэчна, што эпоха перасялення народаў павінна была павесьці да ўзмацнення племянных адрозненняў асобных славянскіх галін, так як плямёны аддзяляліся адно ад другога і пачыналі весьці больш ізаляванае існаванне. На самай справе, эпоха перамяшчэння славянскіх плямён дае нам указанне на племяных адрозненняў. І сапраўды пісьменнікі VI ст. ужо ведаюць раздзяленне славян на розныя плямёны, раскідана жыўшыя на абшырнай раўніне. Гэта добра ведалі візантыйскія пісьменнікі. Але, здаецца, найбольш глыбокія этнаграфічныя дадзеныя дае нам гоцкі гісторык VI ст. Іардан, які ведаў лепш за візантыйцаў месцазнаходжанне славян, таму што ведае не толькі паўднёвыя і усходнія славянскія галіны, але і заходнія. Ён прысвойвае славянам агульную назву венедаў, так называлі іх яшчэ класічныя пісьменнікі (“венды” Тацыта), прычым гэта імя адносіцца ім ў асноўным да прывісленскіх славян, г.зн. да заходніх. Пакзаўшы раздзяленне славян на плямёны, ён, акрамя венедаў, дае далей яшчэ дзве племянные назвы. Так як анты жылі ад паўднёвага Дунаю да Дняпра, а пад венедамі Іардан разумее пераважна заходніх славян, то відавочна, што найменне анты адносіцца да паўднёва-усходняй галіны славян і тады пад імем проста славян разумеюцца паўночныя славяне, якія жылі на поўнач ад Прыпяці. Апошняе супадае і з тым, што яшчэ ў IX і X ст. менавіта гэтыя плямёны называлі сябе славянамі, разлічаючы свае паселішчы па цэнтральных гарадах і рэках. Гэта як раз тая группа плямён, каторыя летапісец называе дрэгавічы, радзімічы і крывічы. Праўда на ўсходзе ў IX і X ст. той жа летапісец ведае жывучым на Ацэ яшчэ адно абшырнае славянскае племя – вяцічы, але гэта племя, якое разам з крывічамі ў далейшым утварыла вялікарускую народнасць, прыйшло, як зараз грунтоўна даказана, з поўдня, з Прыдоння і прытым прыйшло ў дастаткова познія часы. Значыць, із трох назваў пашыранага славянскага племені, назва славяне магла быць аднесена толькі да прыпяцкіх славян, жыўшых паміж верхнім Дняпром і Прыпяццю.

Анты ў той час захапілі абшырную тэрыторыю, якая распаўсюджвалася, відаць, ад сярэдняга Дняпра да Дунаю і ахоплівала чарнаморскае узбярэжжа. Аднак анты з цягам часу былі разарваны азіяцкімі качэўнікамі на паўднёвую галіну, застаўшуюся на Дунаі і паўночную галіну, прыціснутую да Акі і сярэдняга Дняпра. Гэтым быў пакладзены пачатак раздзяленню славян на паўднёва-славян і усходне-славян.

Больш таго, той жа перыяд пачатковага рассялення славян дае нам указанні на здейсненнае іх раздзяленне не толькі на вялікія галіны: заходніх, усходніх і паўночных, але і на меншыя падраздзяленні, на плямёны. У адносінах да Беларусі дагадку ў гэтым напрамку падцвярджае той факт, што частка племені дрэгавічэй у VII ст. жыве ў Македоніі, каля Солуня. Грэкі называлі іх драгувітамі. Гэта сведчыць аб тым, што частка

гэтага племені адарвалася ад свайго ядра і, падхопленная агульным рухам, накіравалася да Дунаю. Гэта найбольш старажытнае узгадванне аб нашых продках. Македонскія драгувіты былі ваяўнічым народам, насялялі цэлую вобласць і мелі свайго епіскапа ў IX ст. Абасобленнасць іх ад другіх плямён у сэнсе назвы гаворыць аб тым, што яны прынеслі сюды не толькі імя, але і некаторыя дыялектычныя асаблівасьці мовы, напрыклад цвёрдае “р” (як у беларусаў)

Мова драгувітаў была той самай мовай, якой вучыліс святыя Кірыл і Мефодзій і на якой, адпаведна, упершыню з’явіліс кнігі святога пісання.

Усё сказанае падводзіць нас да тога, што выдзяленне продкаў беларусаў із асяродзя старажытных славян адбылося вельмі стажытныя часы.

## § 2. БЕАРУСКІЯ ПЛЯМЁНЫ ПА ЗВЕСТКАХ ПАЧАТКОВАГА ЛЕТАПІСУ.

Пачатковы летапіс паведамляе нам ужо даставерныя дадзеныя аб трох плямёнах, якія ў пачатковы перыяд рускай гісторыі жылі на тэрыторыі Беларусі і якія з’яўляюцца прокамі беларусаў. Летапісец паведамляе аб тым, што ў IX ст. усходнія славяне падзяляліс на шэраг плямёнаў. Гэтыя плямёны састаўлялі сабой тры группы, із якіх кожная группа дала пачатак адной із нацыянальнасцей на якія дзеліцца рускае племя, менавіта вялікарускае, беларускае і украінскае. У старажытныя часы кожная з гэтых нацыянальнасьцей складалася із некалькіх асобных плямён, відавочна, мала адрозніваўшыхся паміж сабой і таму з цягам часу зліўшыхся ў адну нацыянальнасць. Так группа плямён, жыўшых на поўдзень ад Прыпяці, Паміж Дняпром і Днястром паклала пачатак украінскай нацыянальнасці (паляне, валыняне, ціверцы, вулічы і інш.). Племя вяцічэй, якое жыло на Ацэ, сумесна з прыйшоўшымі да іх каланістамі, паклала пачатак вялікарускай нацыянальнасьці. Плямёны радзімічэй, дрэгавічэй і крывічэй паклалі пачатак беларускай нацыянальнасці. Летапісец так размяшчае гэты плямёны: пад дрэгавічамі ён разумее вялікае племя, займаючае значную прастору паміж Прыпяццю і Дзвіной. Радзімічэй ён размяшчае на Сожы, а крывічэй – у вярхоўях Заходняй Дзвіны і Дняпра, часткова ў верхоўях Волгі. Із гэтага зразумела, што летапісец размяшчае крывічэй у месцах, дзе раней жылі літоўцы і дзе славяне сутыкнуліся з фінамі. Летапісец ведае, што кожнае племя мела сваё княжэнне, г. зн. уяўляла ізсябе асобны народзец. Ён адрознівае плямёны па этнаграфічных асаблівасцях. З яго слоў, толькі прыдняпроўскія паляне мелі культурныя звычаі – пакладзістыя і ціхія, мелі правільнае сямейнае ўладкаванне. Іншыя ж плямёны жылі “звярынымі звычаямі”, забівалі адзін аднаго, елі ўсё нячыстае і мелі асобыя шлюбныя звычаі. Гэта характэрыстыка летапісца-паляніна мае, відавочна, тэндэнцыю да таго, каб

паказаць перавагу палян над астатнімі плямёнамі. Але для нас важна тое, што летапісец усведамляў розніцу паміж плямёнамі.

Летапісец ведае таксама і некаторыя паданні аб паходжанні плямён. Так, ён расказвае пра тое, што былі два браты, родам з ляхаў: Радзім і Вятка “и пришодша седоста Радим на Сожю и прозвавшася Родимичи». Ад Вятка атрымалі назву вяцічы. Такім чынам да летапісца дайшлі нейкіяне невыразныя паданні аб радстве радзімічэй і вяцічэй з ляхамі. Што да вяцічэй, то ні гістарычныя ні лінгвістычныя дадзеныя не падцвяржаюць думкі летапісца аб радстве іх з палякамі, бо вяцічы прыйшлі на Аку з поўдня, з Падоння, куды перасяленне закінула іх у больш ранюю эпоху. Значыць яны былі адным з акраінных плямён на славянскай прарадзіме і жылі далёка ад ляшскага племені, якое месцілася на крайнім паўночна-заходзе. Іншая справа радство радзімічэй з ляхамі. Для вучоных гісторыкаў гэтая звестка летапісца бачылася яго выдумкай, бо здавалася мельмі дзіўным з’яўленне польскага племені так далёка адарваным на ўсход ад сваіх родзічаў. Аднак, дзякуючы навейшым знаходкам у вобласці філалогіі і вобласці славянскіх перамяшчэнняў, ужо не існуе сумнення ў тым, што паведамленне пачатковага летапісца адпавядае ісціне: племя радзімічэй з’яўляецца часткай вялікага ляшскага племені. Тыя ж дадзеныя філалогіі даюць нагоду сцвярджаць, што ўсё паўночнае прыдняпроўе было заселена часткай ляшскага племені. Філолагі з вялікай даставернасцю адносяць і дрыгавічэй па моўных асаблівасцях да галіны ляшскага племені (акадэмік Шахматаў). У радзімічаў і дрыгавічаў была адна мова – продак беларускай мовы. Дрыгавічы атрымалі сваю назву ад старажытнага слова дрыгва (драгва), што азначае трасіну ў балоце, г. зн. па пераважнаму каларыту наваколля краіны. Найбольшыя цяжкасьці вызывае пытанне аб крывічах. Спачатку летапісец некалькі разоў гаворыць пра гэта племя, прычым часта пакрывае найменне крывічы найменнем славян. З яго слоў вынікае, што славяне мелі асобае княжэнне ў Ноўгарадзе, а другое на Палоце, якое звалася палачанамі. Ад іх жа і крывічы, якія сядзяць у вярхоўях Волгі, Дзвіны, Дняпра і якія маюць горад Смаленск. Тут, г. зн. на ўсёй гэтай прасторы сядзяць крывічы.

У іншым месцы летапісец кажа толькі пра палачан і смалян. Ён ведае і вялікі крывічскі горад Ізборск, які знаходзіцца ўжо на Пскоўшчыне. Адным словам найменне крывічы ў летапісца не мае дакладнага значэння. Па сутнасьці, у яго уяўленні, ў вярхоўях Дняпра, Дзвіны і Волгі, у гарадах Ноўгарадзе, Пскове і Ізборску месціцца племя, якое ён у асноўным называе славянамі ці па галоўных гарадах і рэках і да некаторай часткі якога ён калі-некалі адносіць найменне крывічы. Нямала цяжкасьцей дадае і пытане аб мове. Старажытныя говары – полацкі і смоленскі – без сумневу належаць да беларускай мовы. Між тым, ужо у час летапісца крывічы сядзяць у Ноўгарадзе і Пскове, г. зн. у тых мясьцінах дзе ў далейшым выпрацаваліся вялікарускія говары. Крывічы перайшлі далёка за Дняпро,

там сустрэліся з вяцічамі і там жа, таксама выпрацаваліс вялікарускія говары. Значыць, зяўляецца пытанне: ці прадстаўляюць крывічы самі па сабе продкаў вялікарускага племені, якія на захадзе падпалі пад моўнае уздзеянне дрыгавічэй, ці ж наадварот, яны з’яўляюцца продкамі беларусаў, г. зн. сваякамі дрыгавічэй і радзімічэй, але каланізаваўшы Наўгародска-Пскоўскую зямлю і частку Суздальскай выпрацавалі тут разам з вяцічамі асновы вялікарускай мовы, ці проста падверагліся ўздзеянню вяцічэй. Першае сцвярджэнне з’яўляеца ўсёж-такі вельмі сумнеўным. Усе цяжкасьці знікаюць, калі мы звернем увагу на паказаныя раней ваганні летапісца і прымем адзіна правільнае тлумачэнне слова крывічы. Назва крывічы не паддаецца якім-небудзь тлумачэнням зыходзячы са славянскіх моў, бо розныя этымалагічныя дагадкі нічога ў гэтым пытанні не праясняюць. Але трэба звярнуць увагу на тое, што літоўцы дагэтуль называюць славян крывічамі. Імем крывічы гэта племя сябе ніколі не называла, але часткі гэтага племені зваліся па рэчках і гарадах. Значыць гэта назва запазычаная, чужая і ў такім выглядзе была ўспрынятая летапісцам, які аднак разлічае крывічэй па гарадах і рэках. Пагэтаму напрошваецца ўжо згаданае філолагамі сапастаўленне слова крывічы з літоўскім словам Krievi, што азначае балота, трасіну. Калі мы спынімся на гэтым тлумачэнні, то тады адпадае шэраг сумненняў і для нас будзе відавочна, што  паўночна-усходняя частка Беларусі была таксама населена дрыгавічамі, назву якіх літоўцы проста перавялі на сваю мову і выкарысталі ў адносінах наогул да ўсіх славян, з якімі яны сутыкнуліся. Тады не давядзецца шукаць падстаў супадзення моўных асаблівасьцей паміж крывічамі і дрыгавічамі, не давядзецца перасяляць крывічэй з месца на месца, для чаго не дае падстаў ні адна летапісная крыніца і давядзецца прыняць вывад аб тым, што дрыгавічы, будучы часткай ляшскага племені, мелі цягаценне  да каланізацыі поўначы і усходу, дзе сутыкнуліся з фінамі і вяцічамі і згубілі там, дзякуючы перакрэшчваннем, некаторыя асаблівасці сваёй гаворкі. І так, усе  гэтыя дадзеныя і думкі прыводзяць нас да вываду, што беларускае племя, не гледзячы на тое, што ў глыбокай старажытнасьці падзялялася на тры часткі, ці нават на дзве, спрадвеку жыло на ўказанным месцы і па свайму походжанню одрознівалася ад іншых рускіх плямён, бо было часткай ляшскага племені і было адарвана ад апошняга з захаду літоўскімі плямёнамі і ў паследуючым жыцці падверглася моцнаму ўздзеянню акружаючых рускіх плямён. Гэта збліжэнне продкаў беларусаў з усходне-рускімі плямёнамі магло адбыцца таму, што ад ляхаў яны аддзяліліся вельмі рана, калі моўныя асаблівасьці яшчэ не вельмі адзялялі заходніх славян ад усходніх, калі яшчэ дзейнічалі асновы праславянскай мовы, аднак ўжо з некаторымі мясцовымі асаблівасцямі. Менавіта гэтым тлумачыцца  тыя не шматлікія, але вельмі характэрныя і грунтоўныя асаблівасьці беларускай мовы, якія збліжаюць яе з польскай мовай. Гэта не толькі асаблівасьці гаворкі, але рысы, заснаваныя на фізіялагічнай аснове.

Мы маем на увазе такія асаблівасьці, як беларускае дзэканне і цэканне; сюды ж трэба аднесьці ацвярдзенне мяккага “р”. Беларусу і зараз фізіялагічна цяжка падавіць у сабе гэты асаблівасьці беларускай мовы, не гледзячы на рускамоўную адукацыю і жыццё ў рускамоўным асяродзі. Канчаткова гэтыя моўныя асаблівасьці губляюцца толькі пад уплывам перакрыжаваных шлюбаў і ізаляванным існаванні некалькіх пакаленняў.

## § 3. ЧЫСЬЦІНЯ БЕЛАРУСКАГА ТЫПУ

З папярэднесказаннага відавочна, што беларускае племя спрадвеку раймала тую самую тэрыторыю, на якой яно жыве і зараз, за вельмі невялікімі выняткамі. Ніякія іншыя народы ніколі не насялялі гэтай тэрыторыі. Такім чынам беларускае племя захавала найбольшую чысціню славянскага тыпу і ў гэтым сэнсе беларусы, як і палякі, з’яўляюцца найбольш чыстым славянскім племем. У гістарычным мінулым Беларусі няма ніякіх элементаў перакрэшчванняў, таму што ніякія народы ў вялікай массе не пасяляліся на гэтай тэрыторыі. У гэтым сэнсе беларусы вельмі адрозніваюцца ад вялікаросаў і ўкраінцаў. Не гледзячы на тое, што паўночная Украіна таксама з’яўляецца месцам існоннага пражывання славян, але яна была краінай не вельмі рэдкага адліву і прыліву чужародных народаў, што ў значнай ступені спрыяла змене славянскага тыпу украінцаў. У ім вельмі значная частка прымесі цюркскай крыві: печанегаў, чорных клабукаў, торкаў, полоўцаў, і на прыканцы татар. У далейшым тут массава разлілася польская каланізацыя. Вялікарускае ж племя з’явілась вынікам моцнага перакрэшчвання славян з фінамі і цюркамі.

Нават тыя чужародныя плямёны, якія дзякуючы розным гістарычным нагодам траплялі ў асяродзе беларусаў у больш менш значнай колькасьці, не былі ассіміляваны і самі не ассімілявалі беларусаў. Такія габрэі і татары. З XIV ст. габрэі пасяліліся ў розных кутках Беларусі больш ці менш значнымі группамі. Тады ж на мяжы паміж беларускімі і літоўскімі плямёнамі былі паселены значныя группы татар, але яны да нашых дзён не страцілі сваіх бытавых і этнаграфічных асаблівасцей. З канца XIV ст. Беларусь знаходзілася ў пастаянных адносінах з палякамі. Але не было массавага перасялення палякаў, акрамя таго палякі складалі і складаюць абасобленную частку насельніцтва. Вось чаму нават знешні выгляд тыповага беларуса супадае з тымі апісаннямі знешняга выгляду славян, з якімі мы сустракаемся ў старажытных пісьменнікаў. Гэта тып светлавалосых і блакітнавочых людзей. І яшчэ Герадот так характэрызаваў сваіх будзінаў. Дадзеныя антрапалогіі, не гледзячы на іх невялікую праўдзівасць, падцвяржаюць сказанае: славяне належаць да тыпу доўгагаловых і ў цяперашні час гэты тып перабольшвае ў асяродзі беларусаў (каля 80% па Нідэрле)

## § 4. КУЛЬТУРНЫЯ НАСТУПСТВЫ СУВЯЗЕЙ З СУСЕДЗЯМІ.

На працягу стагодззяў беларускае племя прыходзіла ў сутыкненне з суседзямі, што прывяло да некаторых моўных запазычанняў. Так суседства з фінамі аставіла ў беларускай мове некаторую колькасць слоў, але параўнальна ня шмат і прытым такіх, якія з'яўляюцца агульнымі і для іншых рускіх гаворак. Моўны беларускі матэрыял у значна большай ступені папоўніўся словамі з літоўскай і латышскай моў, што наогул зразумела. Так беларусы запазычылі ў латышоў і літоўцаў 36 распаўсюджаных слоў і не менш 54 вядомых толькі ў некаторых мясьцінах. Затое латышскі і літоўскі слоўнікі напоўнены словамі ўзятымі з рускай мовы наогул і асабліва з беларускай. Запазычанні ад фінаў могуць односіцца да больш старажытнага перыяду. Да больш позняга перыяду адносяцца шматлікія запазычанні з польскай мовы, што зразумела. У гэты разрад павінны быць аднесены і тыя словы, якія трапілі ў беларускую мову праз палякаў з нямецкай мовы і з габрэйскага жаргону. Наогул досыць цяжка вызначыць пераходныя прыступкі таго ці іншага слова: напрыклад словы "аванцюра", "вандраваць" маглі перайсці ў беларускую мову праз польскую, але маглі і непасрэдна з нямецкай і французкай мовы. Найбольшая колькасць слоў запазычана з татарскай мовы. Часткова гэта тлумачыцца суседствам з татарамі, жывучымі ў самой Беларусі, а часткова гэтыя словы маглі перайсці ў беларускую з рускай мовы.

Дарэчы ўсе гэтыя запазычанні характэрны для ўсіх моў. У беларускай мове колькасць запазычанняў, наогул, не вялікая і для далейшага часу не дае ўказанняў адносна таго, што гэта племя знаходзілася ў сфры уплыву якой-небудзь суседняй народнасьці. Калі адзін народ упершыню запазычвае ад іншага суседскага нороду тыя ці іншыя культурныя дасягненні, то ён запазычвае ў гэтага норода-асьветніка і тэрміналогію гэтых дасягненняў. Так фіны многія тэрміны запазычылі ў літоўцаў і рускіх, літоўцы – у рускіх славян. Такіх планамерных запазычаннасцей у беларускай мове няма, ад старажытнага перыяду сустракаюцца толькі асобныя словы. Значыць, не да яе ішло запазычанне культурных даброт, а наадварот, суседнія, меней культурныя народы запазычвалі гэтыя даброты ад дрыгавічэй і крывічэй. Што да больш пазнейшага часу, які ахоплівае перыяд культурных зносін з Польшчай, то тут ёсць у беларускай мове шэраг выказванняў, паказваючых на культурныя запазычванні, але аб гэтым будзе гаварыцца вышэй.

## § 5. КАЛАНІЗАЦЫЙНЫ РУХ.

У параўнанні з маштабам вялікарускай каланізацыі і нават часткова ўкраінскай, гісторыя беларускага племені не адрозніваецца вялікім

размахам каланізацыі. Перыяд беларускай каланізацыі кароткі і адносіцца толькі да старажытнай эпохі. Плямёны дрыгавічэй і крывічэй у старажытную эпоху выдзяляліся шчыльнасцю насельніцтва. Гэта даказваецца, напрыклад тым, што на тэрыторыі адной Мінскай губерніі зарэгістравана каля тысячы гарадзішч (месцаў старажытных умацаванняў) і да трыдцаці тысяч курганаў. Зыходзячы з таго, што такая рэгістрацыя з'яўляецца больш ці менш выпадковай і так як мноства старажытных паселішчаў і пахаванняў знішчылася з цягам столькіх стагодзяў, то зразумела, што гэтыя дадзеныя сведчать аб шчыльнасьці старажытнага насельніцтва. Шчыльнасць насельніцтва і нязручнасьці заселенай тэрыторыі штурхалі народы да перасяленняў. Мы ўжо ведаем, што ў эпоху разсялення славян, частка дрыгавіцкага племені адлучылася і пайшла на Балканскі паўвостраў, дзе візантыйскія пісьменнікі ведаюць яе пад назвай драгувіты. Паўночна-усходняя частка дрыгавічскага племені, выдомая пад імем крывічы, пачала рух, аб чым ужо гаварылася, яшчэ ў X-XI ст. Крывічы асядаюць сярод фінскіх плямён, паступова ассімілюючы іх. Племя радзімічэй у каланізацыі прыймала вельмі малы ўдзел, верагодна таму, што не вельмі шчыльна засялася сваю тэрыторыю.

Дарэчы, можна адзначыць некаторы рух радзімічэй у вобласць басейна Акі, дзе калі-некалі сустракаюцца такія ж назвы рэчак, як і ў вобласці радзімічэй. (напр. Проня). Але тут радзімічы сустракаліс з каланізацыйным патокам вяцічэй. Крывічская каланізацыя будучага цэнтра Вялікаросіі растлумачвае і тую цікавую з'яву, што старытны полацкі говар быў прамежным ланцугом, паміж говарам паўночных крывічэй і говарам дрыгавічэй. У раннім пскоўскім говары заўважаюцца прызнакі, характэрныя говару дрыгавічскаму (вымаўленне неударнага "е" і "і" як"я", па іншаму адзін з варыянтаў акання). Гэтай ранняй каланізацыяй, растлумачваюцца таксама такія факты, як захаванне беларускіх гаворак у Маскоўскай, Цвярской, Калужскай і іншых суседніх губерніях.

## § 6. ДАДЗЕНЫЯ АРХЕАЛОГІІ.

Археалагічныя дадзеныя бліскуча падцвяржаюць толькі што сказаннае аб каланізацыйным руху крывічэй і ідучых за імі з поўдня дрыгавічэй. У крывічэй пераважаў абрад целаспалення. Спаленне адбывалася на насыпанным месцы. Тып курганаў, характэрных для вярхоўяў Бярэзіны, а таксама курганны інвентар, распаўсюджаны ў раёне Пскова, характэрны для вобласьці Смаленска. У той жа час яраслаўскія курганы X ст. па знаходках і пахавальных абрадах уяўляюць сабой поўнае падабенства смаленскім (Спіцын). Гэта падцвяржае факт каланізацыі Растоўскай вобласці з боку крывічэй. Пахаванні з целаспаленнем характэрызуюць сабой звычай крывічэй, тады як у радзімічскіх курганах целаспаленні вельмі рэдкія, рэдкія яны і ў дрыгавічскіх курганах. Але ў

некаторых мясцовасцях чыста дрыгавічскай тэрыторыі, напрыклад у Рэчыцкім уездзе, у значнай ступені перавышыюць целаспаленні. Наогул на Прыпяці заўважаюцца змешаныя формы пахаванняў, так як уплывалі жыўшыя на поўдні ад Прыпяці плямёны драўлян. Крывічы рухаліс у Падзвінне і ў верхняе Прыдняпроўё, перайдучы ва усходнія басейны гэтых рэк. Адсюль крывічэ накіраваліс да верхняй Волгі і пачалі каланізацыю мясцовасцей Пскоўскай і Наўгародскай абласцей. Яшчэ старажытны летапісец ведае вялікі горад Ізборск у крывічах, знаходзячыся ўжо на тэрыторыі старажытнага Пскова. Такім чынам, ужо ў вельмі раннія часы крывічы занялі не толькі тую тэрыторыю на якой яны аселі і былі вядомы пад гэтым імем, г. зн. тэрыторыю Верхняга Дняпра (смаленскія крывічы) і тэрыторыю Падзвіння (полацкія крывічы), выштурхоўваючы на ўсходзе фінаў, а на поўначы літоўцаў, але пайшлі ў глыбіню фінскай тэрыторыі на поўнач, займаючы мясцовасьці чыста фінскія, г. зн. тэрыторыі ў наваколлі старажытнага Пскова і Вялікага Ноўгарада. Выказанная мной раней і часцяком падвяргаўшаяся крытыцы думка аб тым, што Ноўгарад і Пскоў з’яўляюцца калоніяй крывічэй, у цяперашні час ужо не вызывае сумненняў, таму што падцвяржаецца не толькі дадзенымі нашага пачатковага летапісца, але і дадзенымі філалогіі (акадэмік Шахматаў). Гэтым тлумачыцца і тая акалічнасць, што ў найбольш ранюю эпоху крывічы ўвоходзяць у склад паўночна-рускага палітычнага саюзу і, па словах летапісца, разам з Ноўгарадам прызываюць варагаў.

Яшчэ ў IX-X ст. вакол Ноўгарада былі фінскія паселішчы, што ўказвае на тое, што каланізацыя крывічэй з’явілась тут нядаўна і крывічы яшчэ не паспелі ассіміляваць суседнія іншародныя плямёны. Тоеж самае адбывалася і на усходнім напрамку. Вяліка вобласць Паволжжа, Суздальская зямля, першапаткова засяляліся каланістамі із крывіччскага племені. Праўда туды накіроўвалася і каланізацыя з іншых месцаў, напрыклад із племені вяцічэй, але, ва ўсякім разе, найбольш ранняя каланізацыя Суздальскай зямлі ідзе з боку Смаленска. Нават яшчэ ў XII ст. захаваліся ўспаміны аб выплаце даніны Суздаля Смаленску. Такім чынам вобласць меры атрымала сваю пачатковую каланізацыю із крывічскай вобласці. І тут, у Растове і Суздалі выкарыстоўвалі абрад целаспалення. Відавочна, што і ў Прыпяцкай мясцовасьці адбываліся нейкія перамяшчэнні славянскіх плямёнаў і , можа быць, тут быў некаторы наплыў драўлянскага насельніцтва ў дрыгавічскі асяродак, але ва ўсякім разе гэты наплыў не пакінуў ніякіх слядоў у мове дрыгавічэй. Насупраць, калі ў наступныя часы драўлянскія плямёны ратаваліс на дрыгавічскай тэрыторыі ад татарскага пагрома і потым вярталіся на сваю тэрыторыю, то яны прыносілі ў малярускія говары некаторыя запазычанні з беларускіх гавараў.

Пасля гэтых агульных заўваг, характарызуючых найбольш раннія веды аб продках беларусаў, мы пяройдзем цяпер да характарыстыкі старажытнага быту.

## § 7. КАМЕННЫ ВЕК.

На працягу ўсяго верхняга Прыдняпроўя знаходзяць прылады, належачыя *каменнаму веку*. Гэты прылады бываюць двух ціпаў: з неабцёсанага камення, нешліфаваныя, адносячыяся да самай старажытнай эпохі каменнага веку (палеаліту), калі чалавек збіраў знаходзячыяся на паверхні зямлі камяні і трошкі прыстасоўваў іх пад свае патрэбы і прылады із крэмня, добра шліфаваныя; апошнія належаць ужо навейшай эпосе каменнага веку (неаліту) і паказваюць значны рост культуры. На абшарах Мінскай губерніі знаходзяць рэчы, належачыя абодвум эпохам каменнага веку, а на тэрыторыі рассялення крывічэй сустракаюцца рэчы, належачыя выключна да пазнейшай эпохі. Калі меркаваць па астатках каменнага веку можна думаць, што насельніцтва гэтага часу ў адных выпадках вяло вандроўны вобраз жыцця, а ў другіх аседлы. Так на поўнач ад Заходняй Дзвіны прылады каменнага веку не сустракаюцца вялікімі группамі, і наадварт, на поўдзень ад яе, паблізу ад дагістарычнага вадаёму, які месціўся ў Палескай нізіне, трапляюцца шмат прылад на адным і тым жа месцы, што сведчыць аб існаванні тут цэлых пасёлкаў першабытнага чалавека. Людзі каменнага веку мелі дастаткова прылад для барацьбы з жывёламі і палявання на іх (коп’і, стрэлы, сякеры), для лоўлі рыбы, і нават для земляробства, напрыклад сярпы, жорны. Яны ўжо вялі менавы гандаль з суседнімі народамі, так як сярод рэчаў каменнага веку трапляюцца бусы, ракавіны і прылады, зробленыя не із мясцовага матэрыяла. Больш таго, чалавек пазнейшай каменнай эпохі меў некарыя рэлігійныя ўяўленні, так як практыкаваў пахаванне сваіх памерлых і рабіў для іх магілы з каменных пліт.

У шмат якіх мясцовасцях Яўропы і Азіі каменны змяніўся бронзавым; але на тэрыторыі Заходняй Расіі рэчы з бронзы няшматлікія і сустракаюцца разам з жалезнымі, што сведчыць аб тым, што тут ці насельніцтва само адразу перайшло да ужывання жалезных прылад, ці што ўся тэрыторыя была занята прышэльцамі, якія ўжывалі гэты матэрыял.

Усе гэты знаходкі рэчаў каменнага веку характэрузуюць быт вельмі аддаленнага часу, не менш чым за тысячагодзі да Раства Хрыстова, калі яшчэ нельга гаварыць аб якіх-небудзь канкрэтных народах, жыўшых на гэтай тэрыторыі.

## § 8. СТАРАЖЫТНЕЙШАЯ КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ПЛЕМЕНІ.

Аб старажытнейшым быце беларускіх плямён, г. зн. аб перыядзе за некалькі стагодзяў да прыняцця Руссю хрыстыянства, можна меркаваць па тых помніках быту, якія захаваліся у магільных курганах, ці ў старажытных гарадзішчах. Раскопкі, перад усім, паказваюць, што гэтыя плямёны, не гледзячы на іх блізкасць, мелі і свае асабістыя звычаі. Гэта адбіваецца на формах пахавальнага звычаю. Крывічы пераважна спальвалі сваіх памерлых і ў курганах скрыні з іх прахам. Дрыгавічы хавалі памерлых ў зямлі і калі-нікалі рабілі грабы, дастаткова першабытнага ўстройства. Мяркуючы па рэчах, якія захаваліся у курганах, насельніцтва займалась земляробствам, звералоўляй і гандлем. Наогул, гэта былі не вельмі ваяўнічыя плямёны, так як знаходкі зброі ў курганах вельмі рэдкія: мірны чалавек не лічыў патрэбным браць з сабой на той свет зброю. Затое часцей сустракаюцца ў курганных знаходках купцы з вагамі і вагавымі камянямі. Рэчы курганнага перыяду сведчаць аб ужо параўнальна высокай культуры насельніцтва. Былі вядомы рамёствы, напрыклад ткацкае, бандарнае, ганчарнае, якія мелі дастаткова высокае развіццё. Асабліва шмат сустракаецца упрыгожванняў, пераважна склаючыхся з прывазных рэчаў. Так шыя ўпрыгожвалася каралямі, складаўшымся із пацірак (шкляных, сердалікавых, амецістывых, бронзавых, сярэбраных і інш.) і розных вісюлек: кампазіцыя пацірак адрозніваецца замыславатасьцю форм і ўзораў. Рукі і скроні упрыгожваліся пярсцёнкамі і бранзалеткамі; матэрыялам для якіх былі срэбра, бронза, жалеза і шкло. Наогул колькасць упрыгожванняў была такая, што можна зрабіць вывад аб дастатковай заможнасьці насельніцтва дадзенай эпохі. Некаторыя із рэчаў паходзяць з Каўказа і іншых аддалённых мясьцін, некаторыя выраблялісь на месцы, напрыклад вельмі прыгожыя паціркі філіграннай апрацоўкі із срэбра і бронзы. Усё гэта паказвае на высокія эстэтычныя запросы тагачаснага насельніка. Наогул, параўнанне  паўсядзённых рэчаў сучаснага беларуса з рэчамі, якія выкарыстоўвалі яго далёкія продкі, гаворыць не на карысць сучаснасьці. "Курганные рэчы", гаворыць прафесар Завітневіч, па свайму матэрыялу каштоўней, а па форме разнастайней, мудрагелісьцей, а калі-некалі вытанчанней сучасных. Усё гэта зразумела, калі мы прымем да ўвагі, што па разглядаемай вобласці праходзіў водны шлях "із вараг у грэкі", па якому ішоў бойкі менавы гандаль з далёкімі краінамі. Цікава, што некаторыя абіходныя рэчы, выкарыстоўваючыяся ў той далёкі час беларус захаваў і сёння; напрыклад форма ўпрыгожвання глінянага посуду. Яшчэ больш цікава наступнае: курганны жыхар  Палесся меў звычку насіць скураны пояс са скураным мяшочкам у якім захоўваліcь ножык, агніва, крэмень і губка; тыя ж рэчы і ў такім жа мяшочку ён носіць і зараз. Курганныя рэчы паказваюць і на некаторыя звычаі таго часу. Усім вядома, што чашы, з якіх пілі віно і мёд асілкі рускага эпасу, называюць у былінах вёдрамі, дрыгавіцкія курганы паказваюць, што гэта не выпадковая гіпербала, так як у курганах сустракаюцца невялікія драўляныя вёдры са

срэбнымі ручкамі; гэтыя вёдры і служылі той “чарай зелена віна”, якая відаць, выкарыстоўвалась на пірах. Курганы паказваюць таксама, што пры пахаваннях прымяняўся складаны рытуал, які сведчыть аб развітых рэлігійных вераваннях. Нямыя курганы нават у дадзеным выпадку даюць магчымасць сапаставіць тагачасныя ўяўленні з сучаснымі вераваннямі; звернем увагу хаця б на тое, што на магілу памерлага прыносілі агонь ад хатняга вогнішча ў гліняным гаршочку; шанаванне вогнішча і ў цяперашні час моцна адбіваецца на светапоглядзе беларусаў.

Усё вышэй сказаннае адносіцца да жыцця дрыгавічэй. Крывічы, асабліва смаленскія, ужо ў дастаткова ранні час мелі высокую культуру і шырокія гандлёвыя адносіны. Буйнейшым цэнтрам гэтых адносін была мясцовасць пад Смаленскам – Гнездава. Гнездаўскі магільнік добра вывучаны і дае дакладнае разуменне аб культуры старажытных крывічэй, сядзеўшых на Вялікім водным шляху.

Гнездаўскі магільнік адносіцца да IX ст. і галоўным чынам да X ст. калі асабліва багата будаваліcь тут курганы. Урэшце, некаторыя рэчы адносяцца да ранейшага перыяду. Пачатак XI ст. можа служыць канечным тэрмінам жыцця Гнездава. Магільнік дацiруецца арабскімі манетамі IX і пачатку X ст.: самы позні діргем 903 года. У жыцці насельнікаў Гнездава земляробства не адыгрывала вялікага значэння, так як земляробчых прылад не знойдзена. Наадварот, авечкагадоўля і конегадоўля былі моцна развіты, т.я. у курганах была знойдзена вялікая колькасць касцей. Пчалярства, бясспрэчна квітнела, т.я. у курганах знаходзіліся так званыя жалезныя шпоры (дрэвалазныя путы) і некаторыя срэбныя рэчы у куску воску. Занят жыхароў рыбалоўствам падцвяржаецца знаходкамі сталёвых кручкоў для вуд, а аб занятаку паляваннем сведчаць знаходкі наканечнікаў стрэл (так званых зрэзней). Асноўным заняткам жыхароў быў гандаль і прамысловасць. Самыя бойкія гандлёвыя сувязі жыхароў Гнездава былі з блізкімі і аддаленымі краінамі Усходу, праз Волжскі водны шлях, па якому сюды прывозілісь вырабы арабскай індустрыі. Зносіны Гнездава з Візантыяй былі вельмі слабыя: у курганах трапілась толькі некалькі рэчаў спрэчнага паходжання і залатыя ніткі ад парчы візантыйскага паходжання. Наогул, па рэчавых знаходках, культура Гнездаўскага магільніка адносіцца да перыяду росквіту паўночна-арабскага гандлю. Так аб зносінах з усходам сведчаць шматлікія цікавыя рэчы: бронзавыя пласцінкі з перагародчатымі ўзорамі, падобныя да вырабаў Сярэдняй Азіі і Каўказа. Асабліва цікавыя пацiркі, большая частка якіх з Гнезнаўскага магільніка можа лічыцца прывезенай з усходу. Гэта былі дутыя срэбныя вырабы, сердалік. Прывоз пацірак з усходу, вегагодна, звязаны з прывозам разнастайных упрагожванняў.

З другога боку, у гнездаўскіх курганах знойдзены рэчы заходняй індустрыі. Так, сустракаючыяся тут мячы, належать да мячоў скандынаўскага тыпу. Шкарлупінападобныя фібулы таго ж тыпу, сведчаць

аб адносінах з далёкім захадам, але дарэчы, некаторыя з гэтых фібул, згодна з заўвагай даследчыка з'яўляюцца варыянтам мясцовага вырабу. Цікава, што гнездаўскі магільнік утрымлівае побач са шматлікімі вырабамі іншаземнай індустрыі, рэчы мясцовага вырабу. Такім чынам, ужо ў эпоху прыняцця хрыстыянства, плямёны крывічэй, дрыгавічэй і радзімічэй далёка не былі першабытнымі дзікунамі.

# ГЛАВА II. УТВАРЭННЕ І СТРОЙ СТАРАЖЫТНЫХ КНЯЖЭННЯЎ.

## § 1. ПЛЕМЯННОЕ ЖЫЦЦЁ І ЎТВАРЭННЕ КНЯЖЭННЯ.

У пачатковую эпоху рускай гісторыі кожнае племя із тых, аб якіх успамінае летапіс, жыло особным жыццём. Яно мела сваіх асобных племянных князёў, мела сваё веча ці народны сход, на якім збіраліся ўсе паўнапраўныя сябры для абмяркавання тых ці іншых пытанняў, вяло свае войны. Сярод князёў асобных плямён сустракаюцца калі варажскія князі, калі князі мясцовага паходжання. Так у Полацку, у эпоху Пачатковага летапісу княжыў Рогвалад, у Тураве (дрыгавічская зямля) – князь Тур. Верагодна ў радзімічэй было сваё асобнае княжанне, таму што гэта племя супраціўлялась захопніцкім памкненням першых кіеўскіх князёў, мела свайго правадыра і племенную арганізацыю.

Каля пачтку X ст. беларускія плямёны уваходзяць у склад утварыўшайся ў Кіеве Кіеўскай дзяржавы. Першыя кіеўскія князі атрымалі прыярытэт сярод астатняй Русі і пачалі падпарадковываць із Кіева астатнія рускіе плямёны. Так крывічэй мы сустракаем у складзе Кіеўскай дзяржавы ўжо пры Алегу. Алег валодаў Смаленскам і Полацкам, які таксама ўпамінаецца ў ліку алегавых гарадаў. Палачане і смаляне прынімаюць удзел у знакамітым паходзе Алега на Царгорад і ў раздзеле здабычы.

У інтарэсах кіеўскіх князёў было падпарадкаваць перш за ўсё Прыдняпроўе і Падзвінне, таму што па гэтых рэках ішоў шлях з варагаў у грэкі, г. зн. галоўны гандлёвы шлях. Зрэшты, да Уладзіміра маглі быць у асобных пляменаў і асобныя князі, падпарадкаваныя Алегу. Так, відаць, было ў Полацку. Радзімічы канчаткова ўвайшлі ў склад Кіеўскай дзяржавы пры Уладзіміры, які падпарадкаваў гэта племя Кіеву. Дрыгавічы былі падпарадкаваныя Кіеву, верагодна, раней радзімічаў, хоць летапіс не згадвае пра час іх падпарадкавання, але пры Уладзіміры ў Тураве ўжо сядзіць старэйшы яго сын Святаполк, што паказвае на вялікае значэнне гэтага горада ў складзе Кіеўскай дзяржавы. Наогул, Уладзімір энергічней, чым яго папярэднікі, аб'ядноўваў рускія плямёны з Кіевам, знішчаючы сярод іх племянныя княжэнні. Яшчэ будучы наўгародскім князем, і

збіраючыся ваяваць з Кіевам, Уладзімір адпраўляецца ў паход на Полацк. Знешняй падставай для гэтай вайны паслужыла адмова дачкі Рагвалода Полацкага Рагнеды выйсці замуж за Уладзіміра. Апошні напаў на Полацк, забіў тутэйшага князя і паланіў яго дачку. Разам з тым Полацк стаў у непасрэдную залежнасць ад кіеўскага вялікага князя.

Уладзімір, як вядома, яшчэ пры сваім жыцці пораздаваў княжанні сваім сынам. Так, старэйшага сына Святаполка, ён пасадзіў у дрыгавічоў ў Тураве, а сыну ад Рагнеды Ізяславу аддаў Полацкую зямлю. У Смаленску Уладзімірам таксама быў пасаджаны сын яго Станіслаў. Такім чынам, вылучыліся тры буйныя цэнтры. Але толькі Тураў і Полацк з гэтага часу атрымалі значэнне самастойных княстваў, у Смаленску княжанне Станіслава неўзабаве спынілася, і да паловы XIIст. гэтая частка крывічоў не карысталася самастойнасцю. Гісторыя старажытнай Русі, якая падрабілася па смерці Уладзіміра Св [ятого] і сына яго Яраслава (з 1054 г.) на землі, складаецца з гісторый асобных княстваў. Ўсталяваўшаяся ў палове XI ст. своеасаблівае жыццё рускага грамадства ішло па адным і тым жа кірунку амаль да паловы XIII ст., калі ў жыцці Русі здзяйснілася буйная змена: Усходняя Русь падпала пад татарскія валадарства, Заходняя Русь паступова ўвайшла ў сферу літоўскага ўплыву і аб'ядналася з Літвой. Такім чынам, перыяд XI ст. да паловы XIII ст. складае і першы натуральны перыяд у гісторыі Старажытнай Русі. Жыццё ўкладваецца ў рамкі асобных княжанняў. Мы намецілі толькі некаторыя асаблівасці ў гісторыі гэтых земляў, пераважна культурны іх лад. Аб радзімічах казаць не даводзіцца, таму што яны не ўтварылі самастойнай дзяржавы і Радзімічская зямля па частках ўвайшла ў склад суседніх княстваў - Чарнігава-Северскага і Смаленскага. Наогул, племя радзімічаў, было вельмі слабым па сваёй колькасці і культурнаму развіццю і было ўціснута сярод моцных суседзяў, таму яно і не атрымала самастойнага значэння.

## § 2. ГІСТОРЫЯ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ.

Самай цікавай з'яўляецца гісторыя Полацкай зямлі. Яна выказалася ў своеасаблівым развіцці палітычнага жыцця і першы перыяд яе адзначыўся векавой барацьбой з найбуйнейшымі цэнтрамі тагачаснай Русі - Ноўгарадам і Кіевам. Ужо пераемнік Ізяслава, яго сын Брачыслаў зрабіў вельмі ўдалы напад на Ноўгарад і абрабаваў яго. Але асабліва праславіўся Усяслаў Брачыслававіч, які заняў полацкі пасад пасьля сьмерці свайго бацькі ў 1044. Неўтаймоўная энергія Усяслава, выяўленая ў барацьбе з кіеўскімі князямі, прыдбала яму славу чарадзея, якім ён і характарызуецца ў «Слове пра паход Ігаравы» у словах: «Усяслаў князь лядеме суды судяше, князем грады рядяше, а сам у ноч ваўком рыскаше: з Кіева дорыскаше, да курэй, Тьмуторокани; вялікаму Хорсови ваўком шлях прерыскаше. Таму ў

Полотьсте позвониши ютрані рана ў Святой Сафіі, а ён у Кіеве звон слышаше. Нават калі і вяшчае душа ў сябрах целе, але часта бяды страдаше. Таму прарочы Баян і першае припейку смысленный прамовіла ». «Ні хытру, ні значна, ні пьтычу значна, суда Бажия не хвіліны». Сучаснікі не ўмелі інакш разтлумачыць Яго посьпехі пасля панесеных ім не раз паражэнняў. Яму прыйшлося вынесьці барацьбу амаль з усёй тагачаснай Руссю. Гэтая асоба зрабіла на народ такое моцнае уражанне, што захавалася паданне,  быццам ён нарадзіўся ад валхвавання і што з нагоды гэтага ў яго на галаве была радзімая пляма, якая мела асаблівую чарадзейную сілу. Вешчуны загадалі яму насіць на галаве павязку якая хавала яго пляму. І наогул, Усяслаў славіўся надзвычайным чалавекам чарадзеем, нават і паміж больш адукаванымі людзьмі таго часу.

Прыведзены вышэй погляд старажытнага паэта цалкам дакладна, хоць і своеасаблiва, характэрызуе кіпучую дзейнасць Усяслава: ён быў разумны, хітры і вёрткіі, але ў той жа час жыццё яго склалася так, што ён шмат што павінен быў перанесьці. Сваім розумам, сваім клапатлівым прадпрымальным характарам гэты князь застаўся надоўга ў памяці народа; і апавяданні, якія перадаваліся ў народзе, трапілі ў пісьмовыя помнікі - летапіс і «Слова пра паход Ігаравы». Пасля смерці Яраслава ў 1054 г. Усяслаў Брачыслававіч жыў некаторы час у міры з Яраславічамі – Ізяславам Кіеўскім , Святаславам і Усеваладам і нават прымаў удзел у справах ўсёй Русі: так ён хадзіў з усімі князямі ў 1060 на торкаў. Аднак згода хутка парушылася; паміж князямі, не вядома з якой нагоды, адбыўся разлад. Усяслаў распачаў  цэлы шэраг нападаў на паўночныя рускія вобласці, аблажыў ў 1065 Пскоў, хоць і безпаспяхова, а У 1066 г. падступіў да Ноўгарада і папаліў яго наваколлі. Тады вялікі князь Кіеўскі Ізяслаў і яго браты Святапалк і Усевалад вырашылі разам пакараць Усяслава за напады. Глыбокай зімой 1067 яны ўтраіх, на чале шматлікага войска, адправіліся ў Полацкую вобласць. Саюзнікі аблажылі Менск, адзін з найважнейшых полацкіх гарадоў, узялі яго пасля ўпартага супраціву, прычым амаль усё насельніцтва: мужчыны, жанчыны і дзеці, або былі перабіты, або ўзяты ў палон. Ад гэтага горада яны пайшлі далей і на рацэ Нямізе, (рака пад Менскам) адбылася бітва, у якой Усяслаў быў разбіты. Аб гэтай бітве невядомы аўтар «Слова пра паход Ігаравы» так маляўніча сказаў: «На Нямізе снапы стеляют галовамі, малоцяць стальнымі цапамі, на таку жыццё кладуць, веюць душу з цела». Пасля гэтай бітвы Усяслаў збег. Саюзныя князі не пагналіся за ім, але накіраваліся на ўсходнія часткі полацкіх уладанняў, да Дняпра і спыніліся каля  Воршы. Мабыць, наступіўшая вясна п4рашкодзіла працягу ваенных дзеянняў, так як ваявалі ў той час амаль выключна зімой. Сабраўшыся ў Воршы, Яраславічы ў

